# Тыднёвік Магілёўскі

№ 6 (147) 8 – 14 лютага 2002 г. Кошт 100 руб.

## Як засьцерагчыся і перамагчы





Фота IREX

***Некаторыя рэгіёны суседняй з намі Расеі ўжо значна пакутуюць ад грыпу. Хвароба гэтая – бо эпідэмічная – абавязкова наведае й нас: калі не прыляціць па паветры, дык будзе завезеная непасрэднымі носьбітамі інфэкцыі ці тымі, хто скантактуецца зь імі падчас знаходжаньня на "хворай" тэрыторыі. Таму нам трэба падрыхтавацца загадзя, каб не панікаваць, а ведаць, што рабіць і як лекавацца. На рэдакцыйную просьбу аб прафіляктычным артыкуле ласкава адгукнуўся доктар з Магілёўскай інфэкцыйнай больніцы. Ягоны артыкул мы й друкуем ніжэй.***

*Грып – гэта заўсёды эпідэмія, падчас якой захворвае да 40-70 адсоткаў насельніцтва адпаведнай тэрыторыі. Заражэньне адбываецца паветрана-капельным шляхам, бо вірус грыпу перадаецца пры размоўных кантактах, кашлі, чханьні. Першасныя праяўленьні хваробы – дрыжыкі, рэзкі боль у галаве, асабліва ў лобнай і скроневай частках, высокая тэмпэратура. Таксама сюды трэба дадаць рэзкі боль у мышцах, сьпіне і касьцях, вялікае потавыдзяленьне, агульную слабасьць, шум у вушах, адчуваньне сухоты ў роце, сухі кашаль, цяжкае дыханьне...*

*Усе гэтыя сымптомы ці некаторыя зь іх могуць доўжыцца 2-4 дні. А потым, калі грып ня надта моцны, пачнецца агульнае паляпшэньне самаадчуваньня, хаця стан стомленасьці будзе доўжыцца больш працяглы час. Праз тыдзень, звычайна, надыходзіць поўнае выздараўленьне.*

*Аднак, так выглядае хвароба ў выпадку адсутнасьці дадатковых цяжкасьцяў, якімі, на жаль, грып вельмі характэрны. Менавіта таму, дарэчы, ён вельмі небясьпечны. У ліку найбольш распаўсюджаных грыпавых "дадаткаў" – пнэўманія, гаймарыт, аціт, бранхіт, міякардзіт. Акрамя гэтага, грып можа абвастрыць вашы хранічныя хваробы: тубэркулёз, рэўматызм, халесцыт, танзэліт, хваробы нырак. Запаленьне "новымі" хваробамі і абуджэньне хранічных ускладняюць змаганьне з грыпам. Вось чаму пры самых першых, самых аддаленых прыкметах гэтай хваробы трэба неадкладна зьвяртацца ў лекавую ўстанову альбо выклікаць доктара.*

*Мэдычныя спэцыялісты выпішуць вам неабходныя лекі і працэдуры. Аднак вельмі многае ў перамозе над хваробай залежыць ад самога чалавека і ягоных блізкіх. У памяшканьні, дзе знаходзіцца хворы, трэба рэгулярна адчыняць вакно дзеля доступу сьвежага паветра. Трэба штодня праводзіць у ім вільготнае прыбіраньне. Хвораму трэба часьцей, чым гэта робіцца звычайна, мяняць бялізну. Ён не павінен грэбаваць ляжачым рэжымам. Яму трэба больш піць гарбаты, сокаў. Неабходна даволі часта паласкаць рот. Не зашкодзяць содавыя інгаляцыі й трыманьне ног у гарачым гарчычным растворы перад сном. У гэтыя дні пажадана часьцей есьці цыбулю і часнык, якія забіваюць вірус. Увогуле харчавацца хвораму на грып патрэбна 5-6 разоў на дзень, але пры гэтым ня трэба есьці шмат. Зразумела, што з харчаваньня павінны быць рашуча выкрэсьленыя вострыя, салёныя і тлушчавыя стравы. Будзе лепш, калі хворы адмовіцца на гэты час ад паленьня тытуню і ўжываньня алькаголю.*

*Эпідэмію грыпу не заўсёды можна спыніць. Аднак можна і трэба засьцерагчыся ад хваробы і перамагчы яе.*

*Будзьце здаровыя, не хварэйце!*

***Алег ЛІТУЕЎ, доктар-інфэкцыяніст***

РАБОЧАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ

## Ці ўсе будуць у калёне...

***Прэзыдыюм Фэдэрацыі прафсаюзаў зьвярнуўся да сваіх сяброў з прапановаю правесьці 5-га сакавіка агульнарэспубліканскую акцыю пратэсту.***

Ініцыятарам выступіў прафсаюз аўтасельгасмашу. Ягоны лідэр Аляксандар Бухвостаў заявіў, што далейшы дыялёг з уладамі наконт праблемы прафсаюзных складак ня мае пэрспэктывы: "Трэба тэрмінова прымаць рашэньне. У нас прафсаюзны актыў ужо не атрымлівае заробкаў. Людзі ставяць пытаньне: ці здольныя вы абараніць нас, калі ня можаце абараніць сябе?"...

Намесьнік старшыні прафсаюзнага камітэту трактарнага заводу Эдуард Грыхуцік лічыць, што прафсаюзы сёньня маюць гістарычнае права адстаяць сваю чалавечую годнасьць: "Бо як бы мы ні згіналі галаву, нам яе ўсё роўна адсякуць, калі ня будзем сябе абараняць".

Старшыня Фэдэрацыі Франц Вітко заявіў, што калі акцыя пратэсту будзе падтрыманая першаснымі прафсаюзнымі суполкамі, то ў розных гарадах краіны могуць адбыцца мітынгі, пікеты й шэсьці.

***Міхал СТЭЛЬМАК***

**P.S.** *На гэтым тыдні, які быў даволі напружаным для прафсаюзаў па ўсёй краіне, у Магілёве было спакойна. Некаторы час таму старшыня абласной фэдэрацыі Анатоль Любчанка адкрыта пакрытыкаваў вядомы ўрадавы ўказ, але ніякіх "пагрозаў" на адрас улады не выказваў. Дарэчы, сп.Любчанка здаўна вядомы тым, што ніколі не ідзе на канфлікт з уладай. Яшчэ больш лагодна ставіцца да яе ягоны намесьнік С.Крутаўцоў. Таму пакуль не вядома, ці падтрымае нашая вобласьць акцыю пратэсту.*

## Насьцярожвае адсутнасьць адкрытасьці

***Цягам бліжэйшага паўгоду нашыя будаўнікі прыступяць да працы ў расейскай сталіцы. На гэты конт дамовіліся Юры Лужкоў і Барыс Батура падчас нядаўняй асабістай сустрэчы.***

Дзелавыя адносіны паміж Магілёвам і Масквой ужо маюць сваю гісторыю. Пакуль, аднак, гэтыя адносіны нам не прынесьлі плёну. Дастаткова ўзгадаць канфліктную сытуацыю, у якую трапілі будаўнікі трэсту №12 (*"Тыднёвік" падаваў пра гэта напрыканцы мінулага году ў некалькіх нумарах*). Ня спраўдзіўся й шырока абвешчаны і разрэклямаваны некалькі гадоў таму праект так званага гандлёвага дому "Магілеў-Масква".

Тое, што было – прайшло. Цяпер – новая дамова, паводле якой магілёўцам дадзеная маскоўская квота на будаўніцтва жыльля ў расейскай сталіцы. Яна невялікая, аднак магілёўскае начальства задаволенае й гэтым, бо на радзіме ў будаўнікоў працы няма. Зразумела, што кватэры ў нас патрэбныя, як гаворыцца, – толькі давай! Аднак сродкаў на іх узьвядзеньне няма ні ў дзяржавы, ні ў прыватных забудоўшчыкаў. Вось і ўхапілася абласное кіраўніцтва за маскоўскае сяброўства.

Засмучае тое, што робіцца ўсё даволі патаемна. Сумы кантракту, магчымыя заробкі, выгоды Магілёву – ні пра што дазнацца з афіцыйных крыніцаў нельга. "Братэрства, інтэграцыя, узаемавыручка"... Вось і ўся гаворка.

Але ж ці ня тая самая Масква стаіць на тым, што "бязплатны сыр бывае толькі ў пастцы". Значыць, плаціць нам давядзецца. Вось толькі чым?..

***Ганна ЮРЧАНКОВА***

## Рэйтынг-табель маладых патрыётаў

Каля 70-ці вядомых у сьвеце палітыкаў, музыкаў, актораў, рэжысэраў і спартоўцаў атрымалі зварот ад імя Маладога Фронту з просьбай падтрымаць кампанію "Беларусь – у Эўропу".

Сярод іх такія асобы, як Вацлаў Гавэл, Віктар Юшчанка, Валдас Адамкус, Ваіслаў Каштуніца, Міхаіл Гарбачоў, Арнольд Шварцэнэгер, Валерыя Навадворская. У звароце разам з словамі віншаваньня з Днём сьвятога Валянціна гаворыцца, што беларуская моладзь спадзяецца на канкрэтныя дзеяньні з боку атрымальнікаў звароту ў падтрымку беларускай незалежнасьці і дэмакратыі.

***BARC-List***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**На мінулым тыдні здарылася так, што толькі 10 машын хуткай мэдычнай дапамогі здолелі выйсьці на лінію. Прычына па сёньняшнім часе зразумелая: не было чым плаціць за выкарыстаньне тэхнікі і паліва. Мэдыкі вінныя ўжо 200 мільёнаў рублёў. Штодзень “хуткая” абслугоўвае да паўтысячы чалавек. Зь іх 100 чалавек – гэта анкалягічныя хворыя, да якіх не прыехаць проста немагчыма. Аднак цяперашняя фінансовая забясьпечанасьць мэдыцыны не гарантуе абавязковага выкананьня гэтай нормы.**

Выніковая (за мінулы год) калегія аблжылкамунгаса прыйшла да высновы, што яе найвялікшы посьпех – адсутнасьць катастрафічных аварыяў. У прыватнасьці, амаль бездакорна працавала сыстэма падачы вады ў дамы... Калі ж паглядзець на пэрспэктывы гэтай галіны сур’ёзна, то яны выглядаюць дужа сумна. Асабліва калі ўлічыць, што больш за 50% цепласетак ужо цалкам адпрацавалі свой тэрмін. Да таго ж больш за 500 “хрушчоўскіх” дамоў больш ня могуць выкарыстоўвацца ў якасьці жытла. Лепш было б іх не рамантаваць, а пабудаваць новыя, прыдатныя для чалавека. Што да сродкаў, то ў мінулым годзе плянавалася выдаткаваць каля 9-ці мільярдаў рублёў, а выйшла толькі 2. І хоць начальства папракае адпаведных кіраўнікоў ніжэйшага ўзроўню, прычыны цяжкага стану – аб’ектыўныя. Трэба падкрэсьліць, што агульная запазычанасьць перад камунгасам у вобласьці складае амаль 41 мільярд рублёў.

**Звыш 140 мільярдаў рублёў завінавацілася магілёўская вёска бюджэту і банкам-крэдыторам. Як было паведамлена на калегіі сельгасхарчу, з амаль 300 гаспадарак толькі 80 скончылі год зь невялікім прыбыткам. Усе астатнія апынуліся “ніжэй нуля”, нават нягледзячы на спрыяльныя ўмовы, якія стварала для іх дзяржава (ды й надвор’е). Крэдыты выдаваліся, датацыі налічваліся, тэхніку выдзелялі, паліва прывозілі, а калгасам – нішто сабе! І вінныя ўсім, каму толькі можна, і прадукцыі даюць мала. А ўжо хутка вясна, пачатак веснавых працаў на палях. І той жа сельгасхарч ужо выказвае “рэкамэндацыі” крэдытаваць гаспадаркі і надалей...**

Працягвае квітнець так званае схаванае беспрацоўе. Незалежныя аналітыкі кажуць, што ў лютым-сакавіку ў вобласьці будуць звольненыя каля 350 чалавек. Пры гэтым узмацняецца напружанасьць на рынку працы: вакансіі ёсьць толькі ў кандуктараў, трактарыстаў і сантэхнікаў. Як вядома, дасюль дзейнічае распараджэньне з самага верху аб “забесьпячэньні занятасьці”. Але прадпрыемствы з кожным днём усё менш здатныя на выкананьне гэтага прыказу. Тым часам афіцыйныя дадзеныя “абнадзейваюць”: напрыканцы мінулага году колькасьць беспрацоўных у вобласьці складала 2,82% ад агульнай колькасьці працаздольнага насельніцтва, а на пачатку гэтага – 2,64%. Ёсьць чаму радавацца...

**Абласная арганізацыя ПКБ (апазыцыйныя Лукашэнку камуністы) днямі зьмяніла свайго лідэра. Новым кіраўніком абраны Уладзімер Падалян, які працуе намесьнікам дырэктара абласнога ліцэю №2 і зьяўляецца дэпутатам гарсавету. Таварыш Падалян паабяцаў, што будзе змагацца за інтарэсы працоўных і супраць цяперашняй палітыкі “капіталізацыі” эканомікі. Ня ведаю, што сказаць наконт змаганьня, але тое, што сёньняшняя ўлада альбо намагаецца, альбо ўжо нават капіталізуе эканоміку, для мяне, напрыклад, было прыемным адкрыцьцём.**

Па выніках свайго эканамічнага разьвіцьця Магілёў нічым не адрозьніваецца ад астатніх беларускіх гарадоў. Такую выснову можна зрабіць пасьля азнаямленьня з адпаведнымі матэрыяламі паседжаньня гарвыканкаму. Лічбы там – цалкам адмоўныя: падзеньне абаротаў вытворчасьці складае каля 5%, бартэр складае палову ўсіх гандлёвых апэрацыяў, колькасьць стратных прадпрыемстваў... лепш аб тым ня думаць. Да таго ж зьнізілі аб’ёмы вытворчасьці нават нашыя гіганты – МВА “Хімвалакно”, АТ “Магатэкс” і г.д. Прадпрыемствы працягваюць несьці страты, а запасы прадукцыі на складах дасягнулі амаль 70% сярэднемесяцовай вытворчасьці. У выніку паседжаньня ў гарвыканкаме вырашылі, што вінаватыя дырэктары.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Здалёк лёгка быць аптымістам...

***Брытанскі часопіс Economist зьмясьціў артыкул пра Беларусь пад назваю “Трэшчыны ў бэтоне”.***

“Ці нарэшце нешта зьмяняецца ў пакутнай Беларусі?” – так пачынаецца артыкул. І далей гаворка вядзецца пра дзьве перамены ў нашай краіне пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Першая перамена – да горшага: на падставе сумнеўных абвінавачваньняў Лукашэнка пачаў саджаць у турму кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў. Сапраўдная віна гэтых кіраўнікоў, паводле часопіса, у тым, што яны “недастаткова моцна падтрымалі яго на выбарах”. Другая перамена, на дзіва, абнадзейвае: на думку Economist, у кіруючых шэрагах рэжыму пачалося незадавальненьне.

Часопіс цытуе старшыню так званай “рады рэспублікі” Вайтовіча, які ў інтэрвію “прэзыдэнцкай” газэце крытычна выказаўся пра кіраваньне дэкрэтамі, а таксама пра нядаўнюю адмову беларускай улады ў візе амбасадару Віку, што зьбіраўся наведаць краіну па гуманітарнай нагодзе. Сюды ж Economist дадае выказваньне дэпутата “палаты прадстаўнікоў” Хрола, які крытыкаваў адмову ад лібэралізацыі эканомікі. Яшчэ прыводзяцца самакрытычныя выказваньні міністра замежных справаў Хвастова ды іншых.

Няўжо гэтыя чыноўнікі такія сьмелыя? – пытаецца часопіс. Бо ў мінулым тыя, хто выступаў супраць Лукашэнкі, зьнікалі пры таямнічых абставінах...

***Аляксандар ЛУКАШУК***



## На мяжы трываньня

***Пытаньне місіі АБСЭ ў Менску разглядаецца эўрапейскімі структурамі як тупіковае.***

На сёньня місія ня мае кіраўніка й бюджэту. Можа адбыцца так, што яе ўвогуле зачыняць. У прыватнасьці, шмат хто зь нямецкіх экспэртаў уважае такі варыянт за лепшы. Бо іншым варыянтам разьвіцьця падзеяў сталіся б саступкі беларускаму антыдэмакратычнаму рэжыму.

Але вось прафэсар Вольнага Бэрлінскага ўнівэрсытэту Клаўс Зэгбэрс лічыць, што Эўропа можа яшчэ нейкі час пачакаць. Увогуле ж, зазначыў палітоляг, шкада, што пытаньне Беларусі ня ёсьць першачарговым для Захаду.

Днямі адказная прадстаўніца Рады Эўропы Ута Цапф, якая курыруе “беларускую праблему”, практычна прызнала, што Беларусі сапраўды пагражае заходняя ізаляцыя, калі менскі рэжым адмовіцца ад супрацоўніцтва зь місіяй АБСЭ.

***Алена ПАНКРАТАВА***

## ШТО НА ТЫДНІ... У АСІПОВІЧАХ І ГОРКАХ




***Асіповіцкія “філяматы” зьбіраюцца падаць у выканкам заяўку аб пастанoўцы на ўлік сваёй суполкі.***

Пакуль жа ўсе арганізацыі, што ўваходзяць у Каардынацыйную Раду дэмакратычнага руху Асіповіччыны, займаюцца вырашэньнем праблемы яе юрыдычнага адрасу. Мясцовыя ўлады па-ранейшаму не жадаюць надаць гэты статус прыватнаму дому аднаго зь сяброў Рады.

***Напрыканцы студзеня сьпіртзавод “Каўгарскі” спыніў выпуск гарэлачных вырабаў.***

Справа ў тым, што Дзяржхарчпрам у гэтым годзе ня даў заводу квоты на выпуск “саракаградуснай”. Дарэчы, па выніках мінулага году выпуск гарэлкі для мясцовых сьпіртаробаў быў стратным з прычыны вялікіх падаткаў, якія “зьядалі” амаль 90% даходу.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***



***Мясцовыя школьнікі пазбавіліся датацыяў на харчаваньне.***

Чакаецца, аднак, што навучэнцаў 1-4 клясаў гэта не закране. Між тым, навучэнцы старэйшых клясаў “гарбаціліся” у калгасах не за грошы, а якраз за датацыю. Нядаўна адбыўся выпадак, калі малодшыя школьнікі папросту адмовіліся есьці: ім прапанавалі амлет велічынёю... ў палову пачка запалак!

***У мясцовае аддзяленьне аб’яднаньня “Ахова” пры МУС РБ прызначылі новага кіраўніка, які раней працаваў у Асіповічах.***

Між тым, з пачатку года ў горацкім мэдвыцьвярэзьніку пабывалі ажно 95 чалавек, у тым ліку пяць пэнсіянэраў, тры зь якіх – былыя супрацоўнікі МУС.

***Дзіцячая газэта “Несьцерка” распачала абласную інфармацыйную кампанію.***

Рэдактар выданьня наведае шэраг школаў вобласьці, каб пазнаёміцца з сваімі чытачамі й знайсьці новых маленькіх сяброў.

***Натальля КІРЫЕНКАВА***

## Ліцэнзія на думку

***Каардынацыйная рада Рэспубліканскага аб’яднаньня “Беларускія фабрыкі думкі” выступіла супраць намеру ўладаў увесьці ліцэнзаваньне сацыяльных дасьледаваньняў.***



Некалькі дзён таму шэраг навуковых арганізацыяў, сярод якіх БДУ і Акадэмія навук, атрымалі адмысловы ліст Адміністрацыі ад 18-га студзеня. Ён быў накіраваны ў іх пасьля загаду Лукашэнкі: увесьці ліцэнзаваньне незалежных дасьледаваньняў. Вось што паведаміў на гэты конт дырэктар Незалежнага Інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, старшыня Каардынацыйнай рады Рэспубліканскага аб’яднаньня “Беларускія фабрыкі думкі”, прафэсар Алег Манаеў:

– Паводле новых правілаў, мы павінны будзем ліцэнзаваць кожны канкрэтны праект, атрымліваць дазвол на правядзеньне любога сацыяльнага дасьледаваньня. Напрыклад, калі мы вырашым правесьці чарговае апытаньне грамадзкай думкі, то ад нас запатрабуюць прадставіць загадзя анкету, фармулёўку пытаньняў, дзе мы будзем іх задаваць, калі... Усё гэта нагадвае савецкую сыстэму. Калі я працаваў яшчэ пры камуністах у сацыялягічнай лябараторыі БДУ, менавіта такім чынам усё і адбывалася. Цяпер нейкі чыноўнік будзе вырашаць, якія пытаньні нам задаваць людзям, і ці задаваць іх увогуле. Гаворка ідзе пра ўвядзеньне цэнзуры ў сфэры сацыялёгіі.

Трэба нагадаць, што “Беларускія фабрыкі думкі” – гэта рэспубліканскае грамадзкае аб’яднаньне, створанае ў чэрвені 1997г. У яго ўваходзяць 18 аналітычных дасьледчых цэнтраў, дзе працуюць каля сотні сацыёлягаў, палітолягаў, юрыстаў, эканамістаў ды гісторыкаў. Прадукцыя фабрыкаў паступае ў дзяржаўныя й недзяржаўныя ўстановы, бібліятэкі, у СМІ, а таксама ў міжнародныя арганізацыі. Дарэчы, менавіта незалежныя дасьледчыкі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў агалосілі лічбы, адрозныя ад зьвестак Цэнтарвыбаркаму.

***Аляксандар ДАШЧЫНСКІ***

## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ І ЧЭРЫКАВЕ



***Менскі навуковец, супрацоўнік Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі Андрэй Мяцельскі падрыхтаваў кнігу аб гісторыі Крычава.***

Гэтай падзеі была прысьвечаная сустрэча аўтара зь мясцовымі краязнаўцамі й ліцэістамі, якую арганізавала грамадзкае аб'яднаньне "Кантакт-цэнтар". Сп.Мяцельскі ўжо даўно займаецца гісторыяй старажытнай Крычаўшчыны. Новая кніга ахоплівае пэрыяд ад узьнікненьня гораду да Першага падзелу Рэчы Паспалітай.

***Інспэкцыя Дзяржбуднагляду прыпыніла будаўніцтва платнай аўтастаянкі з комплексам бытавых паслугаў.***

Матывацыя была наступная: нібыта парушаны Закон "Аб асновах архітэктурнай і градабудаўнічай дзейнасьці ў РБ". Адметна ў дадзеным выпадку тое, што гэты прыватны праект павінен быў стаць самым буйным у горадзе за ўвесь час незалежнасьці нашай краіны. Бо дасюль у нас лічыцца буйным укладаньнем грошай усталяваньне камэрцыйнага шапіка.



***Культуралёгія і літаратура былі названыя асноўнымі накірункамі пэрспэктыўнага разьвіцьця трэцяга сэктару Чэрыкаўшчыны.***

Такую выснову зрабілі ўдзельнікі пазачарговага паседжаньня Рады грамадзянскіх ініцыятываў усходніх раёнаў вобласьці. У ім узялі ўдзел мясцовыя літаратары й паэты. Былі таксама распрацаваныя накірункі сумеснага супрацоўніцтва пад эгідай Крычаўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кантакт-цэнтар".

***Андрэй КУЗЬМІН***

## "АДЗІНЫ ПАЛІТДЗЕНЬ" У ГЛУСКУ

# Пачнем з прыбіральняў?..

***Мінуў амаль месяц, а глушчане ўсё яшчэ знаходзяцца пад уражаньнем "адзінага палітдня" – сустрэчы работнікаў культуры з начальнікам абласнога ўпраўленьня культуры Міхаілам Дарашковым.***

На сустрэчу ў раённы Дом культуры былі тэрмінова сабраныя работнікі гэтага Дому (уключна з бугальтэрыяй), цэнтральнай і дзіцячай бібліятэкаў, кінатэатру. Загадчык раённага аддзелу культуры Уладзімер Шулякоўскі аб'явіў прысутным, што высокі госьць прыехаў "в рамках единого политдня", а суправаджае яго дырэктар абласнога навукова-мэтадычнага цэнтру Ігар Кузьняцоў.

На пачатку свайго выступу М.Дарашкоў паведаміў, што будзе гаварыць пра вынікі мінулага году: эканамічныя, палітычныя, фінансовыя, а таксама аб рэальным жыцьці й культуры. Ён зазначыў, што бібліятэкі, клюбы й кінафікацыя маюць. Як выявілася, ведае абласны начальнік і аб праблемах – у прыватнасьці аб тым, што ў бібліятэках няма грошай на падпіску пэрыядычных выданьняў. Ад сваго імя ён паабяцаў выдзяліць раёну дзьве відэапраекцыйныя ўстаноўкі: адну для райцэнтру, а другую – для Заеліцкага клюбу.

Падчас прамовы сп.Дарашкоў узгадаў "прежние времена", калі людзей пазбаўлялі пасадаў за тое, што яны "не осваивали выделенные средства". На ягоную думку, гэта быў час выключнага багацьця. Таксама ён выказаў уласнае перакананьне ў тым, што культура пакуль яшчэ трымаецца толькі дзякуючы вялікім грашовым укладаньням з тых самых мінулых часоў.

Што тычыцца праблемы заробкаў, то М.Дарашкоў высунуў наступную ідэю: трэба, каб работнікі культуры атрымлівалі заработную плату праз сваё абласное ўпраўленьне, а ня праз райфінаддзелы, як гэта ёсьць цяпер. Тады, маўляў, грошы будуць паступаць цэлымі й без затрымак.

Кажучы аб пэрспэктывах галіны, начальнік абласной культуры заявіў, што на бягучы год выдзеленыя сродкі толькі на заробкі, прычым ня цалкам: 85% неабходнай сумы. Праўда, заробкі абяцалі падвысіць. Тут ён зноў прыгадаў мінулыя часы, калі, па ягоных словах, загадчыкі бібліятэкаў зараблялі больш, чым начальнікі. А ўвогуле, паводле ягоных падлікаў, культура ўтрымаецца яшчэ 5-10 гадоў, а потым... эканоміка выйдзе з крызысу.

Далей М.Дарашкоў прывёў цікавы прыклад таго, як трэба здабываць сродкі для самазабесьпячэньня галіны. Ён паведаміў, што цягам летняга сэзону ў Парыжы працуюць 500 тэатраў, а вось узіму – усяго 12. Зазначыўшы, што асноўнай формай дасугу ўсё яшчэ зьяўляюцца танцы, выступоўца параіў зарабляць грошы самім, і нічога не баяцца. Паколькі да нас прыйшоў рынак, то, напрыклад, чытаць кнігі бязплатна ўжо не выпадае. Таму трэба браць грошы з чытачоў за завядзеньне фармуляру.

А калі ўзяць, напрыклад, абласны лялечны тэатар, то М.Дарашкоў на месцы ягонай адміністрацыі браў бы грошы за наведваньне тэатральнага туалету – тым больш, што ў тым раёне Магілёву побач прыбіральні няма.

У адказ на пытаньне, як быць з тым, што няма сродкаў на электраэнэргію, ацяпленьне, тэлефон, падпіску, канцтавары й г.д., М.Дарашкоў адказаў, што магчыма прыйдзецца скарыстаць эўрапейскі вопыт, дзе на 4-месяцовы тэрмін установы зачыняюцца. У той жа час ён адкінуў нават думку аб тым, што ў раённым Доме культуры могуць адключыць электраэнэргію: "Я бы хотел видеть, каким будет Дедюля *(старшыня райвыканкаму – І.К.)*, если отключат это здание".

Напрыканцы сустрэчы прысутныя пачалі нясьмела пытацца аб затрымках з выплатай заробку й дапамогі на дзяцей. Аднак М.Дарашкоў адразу спыніў гэтыя спробы, паабяцаўшы звольніць незадаволеных у выпадку, калі факты затрымкі грошай не пацьвердзяцца. На тым пытаньні работнікаў культуры, якім, дарэчы, апошні раз плацілі ў мінулым лістападзе, скончыліся.

Пасьля сустрэчы культурнікі яшчэ доўгі час абмяркоўвалі, за наведваньне якога туалету – у цэнтральнай бібліятэцы ці дзіцячай – лепш пачынаць браць плату.

***Ігар КІРЫН***

# Блакітная шклоўская мара

***Людзі здаўна пагаворваюць аб тым, што непадалёк ад Шклову на Лысай гары ёсьць немалыя запасы так званай блакітнай гліны, якая мае несумненны лячэбны эфэкт.***

Аднак распрацоўка гэтага месца з мэтаю пераўтварэньня яго ў пункт паломніцтва людзей патрабуе праекту, адмыслоўцаў і, зразумела, сродкаў. Дзе ўсё гэта ўзяць у нас? Эканамічная сытуацыя ў Шклове сёньня наступная: усё сапраўды "запушчана", як і было абяцана выбітным земляком яшчэ падчас першай выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі.

Зараз практычна няма каму фармаваць мясцовы бюджэт. Больш за год стаіць мэблевая фабрыка. Ад ПМК-283 засталася толькі шыльда. Не працуюць Цэнтральныя рамонтныя сельгас-майстэрні. Спынены камбінат будаўнічых матэрыялаў. Пачалася ліквідацыя стратных калгасаў.

Дзе тут узяць грошы на салідны праект? За імі днямі група кіраўнікоў мясцовай адміністрацыі на чале з старшынём выканкаму сп.Агеевым зьлётала ў Ізраіль. Аднак вынікі ваяжу (на які, дарэчы, сродкі ў бюджэце знайшліся) не разгалошваюцца. Тым больш, што ня быў галосным і сам візыт. Мо няма чым хваліцца... Хаця й жыве зараз на зямлі абетаванай шмат былых шклаўчанаў, але гэтыя разумныя людзі, па ўсяму відаць, ня клюнулі на прыманку лыса-горскай "блакітнай мары". Хутчэй за ўсё, практычныя шклоўскія ізраільцяне вырашылі пачакаць, пакуль на іх былой радзіме ўлада зробіць што-небудзь больш рэальнае для людзей перад тым, як прасіць грошы на ажыцьцяўленьне сваіх амбітных фантазіяў.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Грамадзтва пакуль у баку

**Для старшыні "Хрысьціянскай злучнасьці "Курапаты" Вацлава Нямковіча апошнія 14 гадоў Курапаты былі сэнсам жыцьця.**

Летась 14-га верасьня Вацлаў Нямковіч трапіў у аварыю. Некалькі месяцаў давялося быць у гіпсе. Было яму вельмі крыўдна, што ня змог узяць удзелу ў падзеях, што адбываліся ў Курапатах цягам апошніх чатырох месяцаў. Грамадзкае аб'яднаньне "Хрысьціянская злучнасьць "Курапаты" было створанае 10 гадоў таму дзеля ўшанаваньня памяці ахвяраў масавых рэпрэсіяў. У невялічкай кватэры Вацлава Нямковіча месьціцца сапраўдны архіў – газэтныя публікацыі пра Курапаты, стэнаграмы паседжаньняў, дзе разглядаліся праекты конкурсу на стварэньне помніка, пасьведчаньне аб наданьні Курапатам статусу помніка першай катэгорыі ды іншае.

Спадар Нямковіч мае ўласны погляд на тое, якім мусіць быць мэмарыял у Курапатах. На кожнай яміне, на ягоную думку, трэба паставіць крыж, зрабіць прыгожую мастацкую агароджу. Таксама ён прапануе ўсталяваць дзьве брамы на ўваходзе й выхадзе – Браму Смутку й Браму Надзеі. А ўздоўж Алеі Смутку паставіць знакі з усіх "курапатаў", якія ёсьць у Беларусі. Павінна быць ва ўрочышчы, канешне ж, маленькая каплічка для ўсіх канфэсіяў, а яшчэ – навуковы будынак.

В.Нямковіч упэўнены, што пры цяперашняй уладзе ніякага мэмарыялу ня будзе: "Бальшавікі былі – бальшавікі засталіся. Ніхто не памяняўся, усе на месцы, кіруюць...". Да таго ж ён лічыць, што пакуль няма ў краіне арганізацыі альбо ўстановы, якая б здолела стаць сапраўдным гаспадаром нацыянальнага нэкропалю. Аднак жа апускаць з-за таго рукі таксама ня трэба, – упэўнены Вацлаў Нямковіч, які цяпер актыўна далучыўся да курапацкіх будняў.

◆

**Крыж – галоўны сымбаль Курапатаў. Нацыянальны нэкропаль трэба добраўпарадкаваць у адпаведнасьці зь беларускімі традыцыямі.**

Гэта – меркаваньне мастака Аляксея Марачкіна, які займаецца распрацоўкай канцэпцыі мэмарыялізацыі Курапатаў. Адметна, што ў майстэрні Аляксея дагэтуль захоўваецца эскіз курапацкага крыжа, які ён зрабіў напрыканцы васьмідзесятых. Потым ён нёс на сваіх плячах ужо рэальны крыж ад будынку КГБ ва ўрочышча. Летась 8-га лістапада, калі бульдозэры валілі крыжы, Аляксей Марачкін быў разам з валанцёрамі.

– Безумоўна, найважнейшую ролю ў адкрыцьці Курапатаў адыграў Зянон Пазьняк, – кажа А.Марачкін. – І менавіта ён мае маральнае права гаварыць уголас, як зрабіць так, каб гэтае сьвятое месца не парушыць. Увогуле, курапацкі храм – гэта магілы й сосны. Ніякага мэмарыялу, ніякага будаўніцтва там быць не павінна. Сымбаль Курапатаў – гэта Крыж, і ён ужо пастаўлены. Трэба толькі зрабіць яго больш даўгавечным. А далей – уздоўж жывой алеі, не парушаючы ніводнай сьцяблінкі, ніводнай галінкі, павінны стаяць крыжы. Праваслаўныя й каталіцкія. Таксама можна ўстанавіць нейкі знак дзеля ўшанаваньня іншых нацыяў. І, зразумела, кожны добры могільнік павінен быць аздоблены агароджай, уваходам, брамай. Прыдалася б і невялічкая каплічка, у якой бы заўжды гарэлі сьвечкі...

***Ганна СОУСЬ***

# Першы камень так і ляжыць...

***26-га студзеня ў Магілеве ў канфэрэнц-залі Беларускага інстытуту правазнаўства адбылася канфэрэнцыя па праблемах мясцовага самакіраваньня.***

Яна была прымеркаваная да 425-ых угодкаў атрыманьня Магілёвам Магдэбурскага права. Разам зь мясцовымі гісторыкамі, юрыстамі, эканамістамі, прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацыяў ды ўладных структураў, у працы канфэрэнцыі ўзялі ўдзел старшыня Санкт-Пецярбурскага моладзевага саюзу "Яблоко" П.Другаў і старшыня моладзевага аб'яднаньня "Моладзевы ўрад Украіны" Е.Шалаева.

У выступах і дыскусіях былі закранутыя гістарычныя, юрыдычныя, эканамічныя і грамадзкія аспэкты самакіраваньня. Найбольш запомніўся выступ вядомага магілёўскага юрыста Юрыя Падольскага, які адзначыў, што пакуль у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі ёсьць 119-ты артыкул, ні пра якое самакіраваньне ня можна весьці гаворкі. Сапраўды: згодна з гэтым артыкулам органы мясцовага самакіраваньня прызначаюцца выканаўчай уладай і, зразумела, мусяць выконваць рашэньні вышэйстаячых дзяржаўных органаў. Гэтая норма парушае ня толькі прынцып падзелу ўладаў, але й правы грамадзянаў. Сымбалем непавагі ўлады да самой ідэі самакіраваньня сп.Падольскі вызначыў зьнішчэньне Магілёўскай Ратушы ў 1957-ым годзе.

Дарэчы, на пачатку 90-х дэмакратычная грамадзкасьць горада плянавала адбудаваць Ратушу наноў. Тады нават быў закладзены ў ейны падмурак першы камень...

***Алесь АСІПЦОЎ***

## Папраўка

У нататцы "Праз спрэчкі – да праўды", якая была надрукаваная ў мінулым нумары, была памылкова пазначаная дата наданьня Магілёву Магдэбурскага права. Адбылася гэтая падзея 28-га студзеня **1577г.** "ТМ" і аўтар нататкі выбачаюцца за дапушчаную недакладнасьць.

МУЗЫЧНА- “ПАЛІТЫЧНАЯ” ГАСЬЦЁЎНЯ “ТМ”

# Навошта сьпеваку голас...

***Віктар Скорабагатаў з гледзішча партыйнасьці – чалавек непасьлядоўны. Бо за сваё творчае жыцьцё зьмяніў гэтых самых партыяў – безьліч: партыя Фігара ў “Сэвільскім цырульніку” Расіні, партыя Ніклаўса ў “Казках Гофмана” Афэнбаха, партыя Альмавіва ў “Вясельлі Фігара” Моцарта... Вось і нядаўна, на сваім бэнэфісе (у мінулым лістападзе сьпявак адзначыў сваё 50-годзьдзе) ён выканаў партыю Беларэцкага ў “Дзікім паляваньні караля Стаха” Ўладзімера Солтана.***

***“ТМ” адаптаваў для газэты гутарку зь Віктарам Скорабагатавым, якая прагучала па радыё “Свабода” па той прычыне, што гэты музыка добра знаёмы магілёўцам, паколькі вось ужо 9 гадоў уваходзіць у склад журы міжнароднага фэстывалю “Магутны Божа”. Днямі грамадзтва загаварыла пра неабходнасьць аднаўленьня аўтарытэту гэтага фэстывалю, што паціху пачаў прыходзіць у заняпад. З удзелам у пачэснай справе і такога чалавека, як Віктар Скорабагатаў, такое цалкам магчыма...***



*– Спадар Віктар, вы нарадзіліся ў Менску, тысячы вашых прыхільнікаў успрымаюць вас як самага сапраўднага беларуса, але Арыяднава нітка вашага роду цягнецца ў Расею...*

**Скорабагатаў:** У культуралягічным сэньсе я – стопрацэнтовы беларус. Што тычыцца этнічнага паходжаньня, то я сапраўды рускі. Род наш вядзе свой пачатак з XVII-га стагодзьдзя, ён ці не баярскі, і мае продкі былі Мілавідавы. Адзін з маіх прашчураў узяў удзел у бунце Хаванскага, а Пётар I быў тады яшчэ маладзенькі й пабаяўся той бунт задушыць з такой жорсткасьцю, як гэта ён рабіў пазьней. I мой прашчур, на шчасьце, ня быў закатаваны. Яго саслалі на мяжу Маскоўскага й Вялікага Літоўскага княстваў. Цяпер гэта мястэчка Сеўск на мяжы Гомельшчыны, Чарнігаўшчыны й Браншчыны. Там і нарадзіліся мае бацькі. А прозьвішча зь Мілавідавых у Скорабагатавых пераўтварылася так.

За маім прадзедам у Сеўску ішла слава гулякі, і аднойчы ён выйграў у карты шынок. Праз паўгода ён гэты ж шынок прайграў. Але напачатку ён стаўся раптоўна заможным, вось за ім і замацавалася мянушка – Скорабагаты. Калі пасьля адмены прыгоннага права дайшла справа да выдачы людзям пашпартаў, чыноўнік так яго і запісаў: Скорабагатаў.

*– На пачатку 1990-х гадоў Беларусь перажыла кароткачасовы рэнэсанс нацыянальнай культуры, у тым ліку й культуры музычнай. Вы ў 1992г. заснавалі “Беларускую капэлю”, якой кіруеце да сёньня. Чаго было больш за гэты час – трыюмфу ці расчараваньня?*

**Скорабагатаў:** Гадзінаў расчараваньня не было ўвогуле. Я тут з вамі мушу не пагадзіцца, што пэрыяд рэнэсансу быў кароткачасовым. На мой погляд, ён як пачаўся тады, так і квітнее да гэтай пары. На працягу апошніх 500-600 гадоў па Беларусі ходзяць і ходзяць чужацкія нашэсьці й зьнішчаюць гэты бедны народ. Прычым зьнішчаюць ня горшых, а лепшых. Але як толькі надарылася мажлівасьць свабоднага існаваньня – адкуль толькі ўсё ўзялося! Разумовая рэгенэрацыя беларускага народу – гэта проста нейкі фэномэн у гісторыі Эўропы!

*– Акрамя таго, што вы – першы барытон айчыннай опэрнай сцэны, вы яшчэ знаны дасьледчык гісторыі музычнага мастацтва, аўтар чатырох кніг. Вось і сёлета пабачыла сьвет кніга “Абышоўся бяз славы” – пра дарэшты забытага кампазытара Яна Тарасевіча. Дзе ж вам працуецца з большым імпэтам?*

**Скорабагатаў:** Лічыцца, што сьпявак павінен найперш займацца сваім голасам. Сапраўды, наша прафэсія вельмі складаная, патрабуе шмат часу менавіта на ўдасканальваньне голасу. Але вось, напрыклад, нямецкага сьпявака Дытрыха Фішэра Дыскау Сьвятаслаў Рыхтэр назваў найлепшым музычным інтэлектуалам XX-га стагодзьдзя. I ніхто яму не запярэчыў...

*– Вам належыць афарыстычнае выслоўе: “Мастацтва – гэта нацыянальна-вызвольны рух у дзеяньні”. Я ведаю, што калі вы аднойчы йшлі ў першых шэрагах гэтага руху, вас арыштавалі. Як гэта адбылося?*

**Скорабагатаў:** На той момант я ня ўдзельнічаў у тым руху, я быў ягоным сьведкам. Гэта было ў 1996-ым годзе, незадоўга да рэфэрэндуму. У Менску праходзіла вялікая дэманстрацыя пратэсту, і я разам зь сябрам апынуўся ў пастцы, калі ішоў па сваіх справах па праспэкце Скарыны каля Галоўпаштамту. Міліцыя тады цалкам заблякавала праспэкт, быў спынены рух транспарту. Зь сябрам я разьвітаўся блізу кансэрваторыі. I тут мяне схапілі і кінулі ў “варанок”. Пазьней я дазнаўся, што за намі сачылі, бо нейкіх наглядчыкаў “у цывільным” насьцярожыла наша зь сябрам беларуская мова (!). У пастарунку я сядзеў гадзіны тры. Потым мне далі пачытаць пратакол – там была розная лухта напісаная, што я нецэнзурна лаяўся (заўважу, што гэтай лексыкай я ніколі не карыстаюся). Я кажу нейкаму маёру: “Я сьпявак, даражэнькія. Я ня ўдзельнічаю ў палітыцы. Я не магу, як у вас напісана, “крычаць на вуліцы заклікі і лёзунгі”, бо мне дарагі мой голас... Пасьля нейкага тэлефанаваньня мяне адпусьцілі. З таго часу калі-некалі бываю на масавых грамадзкіх мерапрыемствах.

*Гутарыў Міхась СКОБЛА*

# Чарнобыль нікога не адпускае

***Магілёўскае грамадзкае аб'яднаньне “Лекарскі саюз” выпусьціла брашуру пад назваю “Доктары пра наступствы Чарнобыля”.***

Магчыма, што яна распачне сэрыю “Мэдыкі – настаўнікам” (менавіта гэтая рубрыка пазначана на вокладцы брашуры). Матэрыялы папярэдняга выданьня “ЛС” – бюлетэню “Чарнобыль і здароўе” – выклікалі цікавасьць у доктарскім асяродзьдзі. Тым болей, што артыкулы былі падрыхтаваныя мясцовымі вучонымі і мэдыкамі-практыкамі й тычыліся сытуацыі ў нашым рэгіёне. А новае выданьне адрасаванае пэдагогам, якія працуюць у сярэдніх школах абласнога цэнтру.

– Мы думаем пра нашых нашчадкаў, – кажа старшыня “Лекарскага саюзу” Сяргей Кунцэвіч. – Таму было вырашана скіраваць увагу пэдагогаў, якія якраз працуюць непасрэдна з нашымі будучымі пакаленьнямі, на наступствы Чарнобылю. Па-першае, мы разьлічваем, што яны выкарыстаюць гэтую інфармацыю ў сваёй выхаваўчай працы. А па-другое, мы спадзяемся, што пэдагогі, а таксама іх родныя і блізкія будуць больш уважліва ставіцца да свайго здароўя, будуць памятаць аб прафіляктыцы й ранньяй дыягностыцы захворваньняў.

Ня трэба забывацца, падкрэсьліваецца ў адным з матэрыялаў брашуры, што перад катастрофай на Чарнобылі 85% беларускіх дзяцей прызнаваліся здаровымі, а цяпер такіх ня больш за 15 адсоткаў.

**У працяг тэмы.** *На гэтым тыдні, у сераду, у сьціплым офісе “Лекарскага саюзу” адбылася сустрэча аўтараў абодвух выданьняў, пра якія ішла гаворка вышэй, з пэдагогамі, журналістамі, актывістамі магілёўскага грамадзкага сэктару. Усе, хто выступіў за своеасаблівым “кольным сталом” (доктары В.Аўраменка, Н.Кананкова, А.Скабялка, В.Адамовіч, Н.Духнова, настаўнікі А.Кавалёў, А.Сярова, журналісты В.Кубека, С.Глазштэйн, прадстаўнік “Кола сяброў” і амэрыканскай праграмы Counterpart І.Шары), выказалі шмат цікавых прапановаў аб разьвіцьці выдавецкіх намаганьняў “ЛС” у кірунку мэдычнай асьветы розных катэгорыяў насельніцтва, асабліва па праблеме чарнобыльскіх наступстваў. Разам з тым, гаворка ішла й пра недастатковую ўвагу да пераадоленьня наступстваў трагедыі з боку ўлады. Асобна падкрэсьлівалася такая зьява, як сацыяльная стомленасьць грамадзтва з прычыны эканамічнага стану ў краіне, які ўвесь час пагаршаецца. Менавіта гэтыя абставіны, на думку ўдзельнікаў сустрэчы, вядуць да відавочнага пашырэньня абыякавасьці людзей да свайго здароўя і здароўя сваіх нашчадкаў.*

***Уласная інфармацыя***




# Супраць інэрцыі абсурднасьці

***Саюз беларускіх пісьменьнікаў, клюб “Спадчына” ды адвакат Гары Паганяйла маюць намер дамагчыся афіцыйнай рэабілітацыі й ушанаваньня ў Беларусі паэткі Ларысы Геніюш.***

Вядома, што ўсталяваць помнік Ларысе Геніюш у Зэльве, дзе яна жыла пасьля вызваленьня з ГУЛАГу й дзе сустрэла свой апошні дзень, улады не дазволілі. Аргумэнтам было тое, што “яна не рэабілітаваная”. У часе абмеркаваньня праблемы ў Доме літаратараў вядомы незалежны адвакат Гары Паганяйла пацьвердзіў, што паводле дзеючых законаў без рэабілітацыі не абыйсьціся. Апрача таго, на ягоную думку, па-іншаму будзе цяжка зафіксаваць у гісторыі незаконныя абвінавачваньні Ларысы Геніюш, незаконнае адбываньне ёю пакараньня, а таксама зьнявагі на адрас паэткі з боку савецкіх і цяперашніх уладаў.

Пры гэтым Г.Паганяйла аптымістычна мяркуе, што цалкам магчыма сёньня дамагчыся прызнаньня яе невінаватасьці. Справа ў тым, што ў “крымінальнай справе” Геніюш няма ніякіх доказаў, якія б пацьвярджалі зьдзяйсьненьне паэткай нейкага злачынства. Калі не лічыць, зразумела, “помощь международной буржуазии в осуществлении враждебной деятельности против СССР”. Дарэчы, з 1960г. гэты склад злачынства скасаваны ў беларускім заканадаўстве з прычыны ягонай абсурднасьці.

Ня варта забывацца й на тое, што Ларыса Геніюш, паміраючы ў Беларусі, ня мела ніякага грамадзянства. Сп.Паганяйла ўважае, што зараз трэба зьвярнуцца па спрыяньне ў разьвязаньні гэтай праблемы да шырокай міжнароднай грамадзкасьці – у тым ліку да ўладаў Чэскай Рэспублікі, грамадзянкай якой Л.Геніюш калісьці была.

*Юлія ДРАНЧУК*



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 6. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 07.02.2002 г. а 17.10